

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова





**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 37 (1344) 13 ВЕРАСНЯ 2017 г.**


# Менску - 950




9 верасня Менск святкаваў 950-годдзе. Старшыня Менгарвыканкама Андрэй Шорац, перадае карэспандэнт БелТА, запрасіў усіх мінчукоў прыняць удзел у мерапрыемствах, якія праводзяцца 9-10 верасня. Сам ён наведаў грандыёзнае шоў фантанаў у парку Перамогі, падняўся ў неба на адным з аэрастатаў - удзельнікаў Міжнароднага фэсту паветраплавання, адкрыў фэст гістарычнай рэканструкцыі.

Велізарны торт "Менск-950" прадставілі на Фэсце хлеба, які праходзіць ля Палаца спорту. Як распавяла намеснік генеральнага дырэктара па вытворчасці КУП "Менскхлебпрам" Таццяна Акулава, ідэя спячы вялікі салодкі падарунак у гонар юбілею з'явілася ў траўні, з гэтага часу сталічныя кандытары працавалі над увасабленнем яе ў жыццё. Вага выраба перавышае 250 кг, яго дыяметр - каля 4 м. Паспрабаваць незвычайны пачастунак маглі ўсе ахвотнікі - яго, як запэўнівалі кандытары, хапіла на 2 500 чалавек. Удзел у стварэнні торта прынялі лепшыя кандытары сталічнага хлебазавода № 3.

Быў прведзены цэлы шэраг іншых самых розных мерапрыемстваў.

*БелТА.*

## Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання




1 верасня 2017 года Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь выпусціла ў аварот паштовы блок "500-годдзе беларускага кнігадрукавання". Праект падрыхтаваны ў супрацоўніцтве з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі.


ISSN 2073-7033





**Шаноўныя калегі!**

Запрашаем да ўдзелу ў рабоце традыцыйнай міжнароднай навуковай канферэнцыі "Купалаўскія чытанні".

З-за тэхнічнага збою электроннай пошты інфармацыя рассылаецца са спазненнем, таму тэрмін прыёму заявак прадоўжаны да 30 верасня.

З павагай,

Вучоны сакратар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Варонава Галіна.

# 80 гадоў з дня нараджэння Ўладзіміра Содаля



**Уладзімір Ільіч СОДАЛЬ** (псеўданім: Уладзімір Мормальскі) - беларускі літаратуразнавец, журналіст, даследчык, краязнавец.

Нарадзіўся 13 верасня 1937 года ў вёсцы Мормаль Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці. Інвалід па зроку з дзяцінства. У 1961 годзе ажаніўся з Клараў Барысаўнай Караткевіч, меў сына і дачку.

Скончыў Менскі педагагічны інстытут (1963). Працаваў загадчыкам Мормальскага сельскага клуба, электрыкам Мурманскага караблерамонтнага завода, скончыў брыгадныя курсы токараў, настаўнікам беларускай мовы і гісторыі Астрашыцкага дзіцячага сухотнага санаторыя, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Мастацтва Беларусі", рэдактарам навукова-папулярных і навучальных праграм. У 1967-2000 гадах працаваў на Беларускім тэлебачанні, у тым ліку быў рэдактарам асветніцкіх перадач "Роднае слова" (1979-2000), "У кожнага была свая вайна".

Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў (1996), Саюза журналістаў Беларусі. Сябар Рэспубліканскай Рады "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", рэдкалегіі газеты "Наша слова" і "Таварыства беларускай школы". Удзельнік Устаноўчых з'ездаў БНФ, ТБМ, адзін з падпісантаў ліста творчай інтэлігенцыі ў ЦК КПСС аб стане беларускай мовы ў рэспубліцы. Неаднойчы быў затрыманы або збіты за свае палітычныя погляды. Выступаў супраць інтэграцыі Беларусі з Расіяй і расійскай агрэсіі ва Ўкраіне.

Памёр 15 красавіка 2015 года ў Менску ў Першым клінічным шпіталі ад інфаркту. Пахаваны на могілках у Астрашыцкім гарадку каля маці.

Першыя свае апавяданні апублікаваў у 1955 годзе ў газеце "Піянер Беларусі". Даследаваў беларускую літаратуру і культуру XIX-XX ст., жыццёвы і творчы шлях В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, М. Багдановіча, Ядвігіна Ш., Зоські Верас і інш. Аўтар кніг "Людзьмі звацца" (1977), "Пуцявінамі сейбіта" (1982), "Кушлянскі кут", "Сцежкамі Мацея Бурачка" (абедзве 1990), "Жупранская старонка" (1992), "Тут бачу свой край" (1994), "Свіранскія крэскі" (1995), "Карпілаўка" (2001), "Умей слухаць" (2003), "Святы той куточак фальварак Свіраны" (2005), "Анекдоцік у роцік" (2008), "Блаславёныя Кушляны" (2009), "Народныя апавяданні" (2009). Складальнік альбомаў "Францішак Бенядзікт Багушэвіч" (1986), "Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч" (1997). Укладальнік зборнікаў твораў Ф. Багушэвіча "Мая дудка" (1987), "Каму дудка паслушна" (1990). Кніга "Волат з Мігаўкі" (2007) прысвечана жыццю і дзейнасці Аляксандра Ўласава. Аўтар сцэнарыяў навучальных дыяфільмаў пра Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каліноўскага і інш.

За літаратурна-даследчую працу і змаганне за родную мову Камітэтам ушанавання ганараваны ордэнам "Гонар Айчыны" і імянным срэбным пярсцёнкам з выявай герба (27.11.1997) і адпаведнымі дыпломамі. Занесены ў кнігу гонару "Руплівцы твае, Беларусь".

*Вікіпедыя.*

*Праект*

## Парадак дня XIII з'езду ТБМ

**29 кастрычніка 2017 г.** **г. Менск**

9:00-10:25 - рэгістрацыя дэлегатаў і гасцей.
10:30 - 17:00 - праца з'езду.
10:30-11:00 - выбары прэзідыуму, падліковай камісіі, сакратарыяту З'езду, мандатнай камісіі, рэдакцыйнай камісіі, віншаванні гасцей.
11:00-12:10 - справаздачны даклад старшыні ТБМ.
12:10-12:20 - справаздачны даклад рэвізійнай камісіі.
12:20-12:25 - выступ кіраўніка мандатнай камісіі.
12:25-14:00 - выбары новага кіраўніцтва ТБМ:
- старшыні, першага намесніка і намеснікаў;
- Рады ТБМ;
- рэвізійнай камісіі;
- ганаровага старшыні ТБМ.
14:00-15:00 - абед.
14:40-15:00 - новая Рада ТБМ абірае сакратарыят ТБМ (падчас абеду).
15:00-15:20 - зацвярджэнне рэдактара газеты "Наша слова" і складу рэдкалегіі газеты.
15:20-16:00 - прыняцце рэзалюцый і заяў XIII з'езду ТБМ.
16:00-17:00 - выступы дэлегатаў з прапановамі па паляпшэнні дзейнасці ТБМ, наказы новаму кіраўніцтву.

# Беларуская мова - неад'емны чыннік беларускай незалежнай дзяржавы

На працягу XX ст. у Еўропе і свеце адбываліся важныя гістарычныя змены, якія і зараз, у пачатку XXI ст., маюць значны ўплыў на лёсы ўсіх еўрапейцаў і асабліва жыхароў Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы.

Сто гадоў таму ў 1918 г. скончылася I Сусветная вайна, у выніку якой сканала некалькі вялізных імперый, і сярод іх: Германская, Аўстра-Венгерская, Турэцкая (Атаманская) і Расійская.

Тры апошнія з іх былі шматнацыянальнымі і шматмоўнымі, але моўная палітыка там была вельмі жорсткай. Адна дзяржаўная мова - руская, альбо турэцкая - і зацісканне ўсіх іншых. Толькі ў Аўстра-Венгерскай імперыі сітуацыя была крыху лепшай, бо там акрамя нямецкай мовы значную ролю адыгрывала і венгерская, а таксама былі школы на польскай, украінскай і іншых мовах шматлікіх народаў гэтай дзяржавы.

Расійская імперыя нават пасля рэвалюцыі 1905 г. праводзіла жорсткую русіфікатарскую палітыку, асабліва ў сістэме адукацыі, дзе былі, у прыватнасці, забароненыя школы на беларускай мове, нягледзячы на дазвол існавання беларускіх газет і друкаванне кніг і іншай прадукцыі на беларускай мове.

Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. і абвяшчэння ў верасні таго ж года Расійскай Рэспублікі, моўнае пытанне ў дзяржаве і, найперш у галіне адукацыі, так і не было вырашанае, бо ўсе рускія лібералы і сацыялісты заставаліся на русіфікатарскіх пазіцыях.

У той час на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якую ў 1915 г. акупавалі войскі Германскай і Аўстра-Венгерскай імперый, беларуская мова ўпершыню пасля канца XVII ст. атрымала статус адной з афіцыйных моваў, і з 1916 г. было дазволена адкрыць беларускамоўныя школы і некалькі семінарый.

Таму невыпадкова і ўрад БНР у 1918 г. абвясціў беларускую мову дзяржаўнай на сваёй тэрыторыі і паставіў пытанне пра стварэнне ў Менску нацыянальнага ўніверсітэта.

Беларускія камуністы на чале з Цішкам Гартным (Жылуновічам) хацелі зрабіць беларускую мову дзяржаўнай і на тэрыторыі ССРБ, але гэтая дзяржава праіснавала толькі два месяцы і была пераўтворана ў ЛітБел, дзе беларуская і літоўская мовы практычна не выкарыстоўваліся. Падчас савецка-польскай вайны (1919-1920 гг.) польскія ўлады масава зачынялі беларускія школы на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Крыху пашанцавала Віленшчыне, дзе ў кастрычніку 1920 г. была абвешчана марыянеткавая, але фармальна незалежная, рэспубліка Сярэдняя Літва, і дзе дзейнічала Віленская гімназія на беларускай мове ды школы ў шэрагу вёсак.

У адроджанай у 1920 г. БССР, што складалася з шасці паветаў былой Менскай губерні, пытанне дзяржаўнасці беларускай мовы паўстала з новай сілай і было замацавана ў сакавіку 1921 г. у Рызе, дзе з новай Польшчай заключылі мір на ўмовах, што беларускія школы і гімназіі на тэрыторыі Польшчы будуць існаваць. У тым жа годзе ў Менску быў адкрыты нарэшце і ўніверсітэт.

У часы НЭПу, які таксама пачаўся з 1921 г., на тэрыторыі Расіі і іншых савецкіх рэспублік, што ў 1922 г. былі аб'яднаныя ў СССР, актыўна праводзілася палітыка "карэнізацыі" і развіцця моў і культур усіх народаў на тэрыторыі новай савецкай дзяржавы.

У 1927 г. БССР абвясціла дзяржаўнымі мовамі чатыры: беларускую, польскую, рускую і ідыш (упершыню ў свеце!). Але паколькі беларусаў было больш і яны былі адзінай карэннай "тытульнай" нацыяй, перавагу атрымала менавіта беларуская мова. Да 1929 г. большасць школ у БССР сталі беларускімі, на беларускую мову паступова пераходзілі і ВНУ. У той жа час у Польшчы пасля дзяржаўнага перавароту 1926 г., калі да ўлады прыйшоў Юзаф Пілсудскі, да 1938 г. практычна ўсе беларускія школы і гімназіі, за выключэннем Віленскай, былі зачыненыя, а таксама забаранілі ТБШ.

У 1929 г. пасля канчатковай канцэнтрацыі ўсёй улады ў СССР у руках Сталіна палітыка НЭПу разам з "карэнізацыяй" і культурным адраджэннем была згорнутая, пачалася адкрытая русіфікацыя і масавыя рэпрэсіі супраць усіх нацыянальных эліт, у тым ліку, і беларускай інтэлігенцыі.

ВНУ ў БССР перайшлі на рускую мову, беларускамоўных выкладчыкаў рэпрэсавалі, на іх месца прыслалі рускамоўных з розных куткоў СССР. Аднак вясковыя школы і часткова гарадскія засталіся беларускамоўнымі. Таму школы на тэрыторыі Заходняй Беларусі пасля 17 верасня 1939 г. таксама перавялі з польскай на беларускую мову навучання.

Пасля 1944-1945 г. тэрыторыя БССР пасля перадачы ПНР Беласточчыны скарацілася, а школы там, яшчэ не паспеўшы стаць беларускімі, зноў сталі польскімі і толькі пазней, пасля 1956 г., у некаторых з іх дазволілі вывучаць беларускую мову як асобны прадмет.

У пасляваеннай Беларусі пасля 1959 г. пачалася новая хваля русіфікацыі, калі гарадскія школы былі да 1961 г. гвалтам пераведзеныя на рускую мову, а ў БДУ нават студэнты філфака навучаліся толькі на рускай мове.

Але, дзякуючы беларускім пісьменнікам, якія стваралі магутную беларускамоўную літаратуру, якую масава перакладалі на рускую і іншую мовы, і вясковым школам, беларуская мова ў краіне не загінула і зноў адрадзілася як дзяржаўная ў студзені 1990 г. адпаведным законам. Статус адзінай дзяржаўнай беларускай мовы быў замацаваны і ў першай Канстытуцыі Беларусі 15 сакавіка 1994 г.

Аднак у 1995 г. сілы, якія хацелі паступова далучыць Беларусь да суседняй дзяржавы, правялі рэферэндум аб наданні статусу дзяржаўнай і рускай мове быццам бы на правах яе поўнага раўнапраўя з беларускай.

Але, як і прадказваў перад рэферэндумам Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, ніякай роўнасці не сталася. Наадварот, змены, унесеныя ў 1998 г. у Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", дазваляюць грамадзянам Беларусі зусім і нідзе не карыстацца беларускай мовай, за невялікім выключэннем у пэўных выпадках.

Прайшло 20 год, вырасла новае пакаленне беларусаў, змянілася знешняя палітычная сітуацыя, аднак беларуская мова не знікла і заняла сталыя пазіцыі ў той сферы, дзе не маюць палітычнай сілы розныя русіфікатары - у інтэрнэце, дзе актыўна карыстаюцца дзвюма версіямі сучаснай беларускай мовы: "наркамаўкай", зацверджанай Законам 2008 г. і рознымі варыянтамі "тарашкевіцы", што грунтуюцца на правапісе, забароненым у БССР у 1933 г.

Вядома, за гэтыя 20 год беларуская мова фактычна страціла свае пазіцыі ў ВНУ і штогод сістэматычна выцясняецца, дзякуючы вялікім намаганням нашага Міністэрства адукацыі, са школьнай праграмы, сотнямі зачыняюцца малыя школы з беларускай мовай навучання, а новыя беларускамоўныя класы, ужо не гаворачы пра школы, за некаторым выключэннем, дзякуючы вялізным намаганням бацькоў і структураў ТБМ, прынцыпова не адчыняюцца.

Таму, калі мы хочам пазбегнуць чарговай акупацыі ці анэксіі і не стаць чарговай ахвярай так званага "русского мира", патрэбныя канкрэтныя змены ў адносінах да дзяржаўнай беларускай мовы. А менавіта, змены ў дзейнае заканадаўства, дзяржаўныя экзамены па валоданне аднолькава добра абедзвюма дзяржаўнымі мовамі для ўсіх дзяржаўных чыноўнікаў без выключэння, адкрыццё ва ўсіх каледжах і ВНУ краіны беларускамоўных плыняў і студэнцкіх групаў, элітнага беларускамоўнага ўніверсітэта для падрыхтоўкі будучых кіруючых кадраў у незалежнай Рэспубліцы Беларусь.

***Алег Трусаў,***
*старшыня ТБМ,*
*кандыдат гістарычных навук.*

*Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Алена Анісім*

# Статус Полацка: рэальнасць і перспектывы

**Выступ падчас навукова-практычнай канферэнцыі "Полацкія чытанні - 2017 г." у Дзень беларускага пісьменства ў Полацку 2 верасня 2017 г.**



Набліжаецца свята 100-годдзя аднаўлення нашай дзяржаўнасці. Гэта значная падзея для Беларусі, як для ўсведамлення гістарычнага і перспектыўнага развіцця краіны, так і ў плане міжнароднага іміджу. Гэта добрая нагода асэнсаваць набыткі і намеціць кірункі далейшага ўмацавання і росквіту нашай краіны.

Мы гаворым пра аднаўленне, маючы на ўвазе, што пачатак беларускай дзяржаўнасці сягае ў глыбокую гісторыю. І першае дзяржаўнае ўтварэнне, пра якое мы маем бясспрэчныя летапісныя сведчанні, гэта Полацкае княства. Пра яго існаванне і дзейнасць даследавана і напісана шмат, тым не менш, і сёння знаходзяцца і публікуюцца новыя матэрыялы, якія дазваляюць сцвярджаць, што гэта княства амаль на сотню гадоў старэйшае, чым лічылі дагэтуль.

Для нашай краіны такія факты вельмі важныя, асабліва ў сённяшняй сітуацыі, калі мы стаім перад многімі выклікамі, якія ставяць пад пагрозу існаванне незалежнай Беларусі.

Адным з важных элементаў любой дзяржавы з'яўляецца яе сталіца. На ўсім працягу гісторыі беларускія землі ўваходзілі ў склад розных дзяржаўных утварэнняў, што адбівалася і на тых паселішчах, якія выконвалі ролю сталічных гарадоў. Так, прынята лічыць, што мы маем у Беларусі 5 гарадоў, якія ў розны час выконвалі (ці прэтэндавалі) гэтую функцыю: Полацк, Наваградак, Гародня, Магілёў і Менск. Кожнае з гэтых месцаў мае сваю гісторыю і на сённяшні дзень - розны статус. Горад Менск набыў свой сталічны статус не так даўно, ператварыўшыся з невялікага губернскага места пачатку XX ст. у горад еўрапейскага выгляду і ўзроўню. Гародня і Магілёў умацаваліся як абласныя цэнтры, Наваградак, засведчыўшы свой сталічны статус у даўнія часы, развіўся да ваяводскага цэнтра ў міжваеннай Польшчы і не змог падняцца пакуль вышэй, чым раённы цэнтр у Беларусі.

А вось роля Полацка ў гісторыі развіцця нашай дзяржаўнасці і, асабліва яго перспектывы, на нашу думку, заслугоўваюць асобнай увагі.

Пералічым асноўныя этапы яго гісторыі і значнасці.

У X-XIII стагоддзях Полацк быў цэнтрам Полацкага княства. У 1307 годзе горад увайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага.

У 1498 годзе Полацк атрымаў права на самакіраванне - Магдэбургскае права.

У 1504-1772 гг. горад быў цэнтрам Полацкага ваяводства ВКЛ.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай правабярэжная частка Полацка 25 ліпеня 1772 года ўвайшла ў склад Расійскай імперыі. Левабярэжная частка перайшла ў склад Расійскай імперыі пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1792 годзе.

Да 1776 г. горад знаходзіўся ў Пскоўскай губерні. З 24 жніўня 1776 года Полацк быў адміністрацыйным цэнтрам Полацкай губерні, а з 12 траўня 1778 года - Полацкага намесніцтва.

У 1839 годзе ў Полацку адбыўся царкоўны сабор, на якім грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква Расійскай імперыі была ліквідаваная для поўнага падпарадкавання Рускай праваслаўнай царкве. Ад гэтага часу старадаўняя беларуская сталіца ператварылася ў звычайны ўезны горад Расійскай імперыі.

З 1924 года Полацк знаходзіўся ў складзе БССР.

15 жніўня 1924 года быў утвораны Полацкі раён.

З 20 верасня 1944 па 8 студзеня 1954 г. Полацк меў статус адміністрацыйнага цэнтра Полацкай вобласці ў складзе БССР.

У 1954 г. Полацкая вобласць, якая праіснавала 10 гадоў, увайшла ў склад Віцебскай вобласці.

7 чэрвеня 1958 года быў убіты калок першай палаткі, і пачаў сваё жыццё Наваполацк. Гэтая падзея і развіццё горада нафтахімікаў значна паўплывала на далейшы лёс г. Полацка, які, тым не менш, да 2013 г. меў статус горада абласнога падпарадкавання.

14 студзеня 2013 года ўказам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь за нумарам 27 "Аб аб'яднанні раёнаў і гарадоў абласнога падпарадкавання Рэспублікі Беларусь, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр" Полацк быў пазбаўлены статуса горада абласнога падпарадкавання. Грамадскасць Беларусі ўспрыняла гэта рашэнне, як і самі палачане, без асаблівай радасці.

Згодна з гэтым рашэннем, на сённяшні дзень Полацк з'яўляецца раённым цэнтрам, што, на нашу думку, не адпавядае яго ролі ў сучасным і тым больш гістарычным развіцці. Жыхары гэтага ў многім знакавага беларускага места не пагаджаюцца з такім статусам і выказваюць жаданне змяніць гэтую сітуацыю. Наконт будучыні гэтага найстарадаўнейшага горада выказваліся і вядомыя грамадскія і культурныя дзеячы, у тым ліку нараджэнцы самога Полацка. Самай абмяркоўванай прапановай стала нечаканае выказванне Алега Трусава аб пераносе сталіцы з Менска ў Полацк, якое пакуль не перарасло ў практычныя дзеянні праз дастаткова вялікія фінансавыя затраты, што запатрабаваліся б для гэтага. (Вядома, і праз іншыя моманты, у якія не будзем сёння паглыбляцца).

З улікам усяго вышэйсказанага рызыкну прапанаваць наступнае. Зважаючы на месца і ролю Полацка ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці, улічваючы яго магутны інтэлектуальны і культурны ўзровень у гістарычным мінулым, а таксама назапашаны сучасны значны турыстычны імідж, варта надаць яму асобны статус. Гэта можа быць статус першай беларускай сталіцы, ці месца нараджэння беларускай дзяржаўнасці. Пра гэта яшчэ варта параіцца, і найперш з самімі палачанамі. Але важна, акрэсліваючы новы статус, прадугледзець магчымасць для гарадскога самаразвіцця і самакіравання, абазначыць пэўныя прывілеі, прыкладам, у выглядзе падатковай палёгкі для тых суб'ектаў гаспадарання, якія будуць тут працаваць, у тым ліку з аб'ектамі гістарычна-культурнай каштоўнасці. Мадэль можа быць рознай, але калі мы даем магчымасць працаваць на нашай зямлі замежным інвестарам з далёкіх земель на прывеліяваных умовах, то нашы палачане, якія шмат зрабілі за час існавання Полацка для развіцця, абароны і ўмацавання Беларусі, тым больш маюць права на ўвагу і павагу з боку дзяржавы. І безумоўна, належнае месца павінна заняць беларуская мова: у сістэме адукацыі, у візуальным афармленні горада, у рэкламе і штодзённай працы дзяржаўных органаў. Такое рашэнне - асобны статус - станоўча паўплывае не толькі на развіццё Полацка, але зробіць важкі ўнёсак у справу ўмацавання дзяржаўнасці і росквіту нашай незалежнай Беларусі.

***На здымку:*** *Алена Анісім і Алег Трусаў. Здымак зроблены ў Полацку на Дні беларускага пісьменства ў 2017 г.*

Павел Сіцько

# Прозвішчы Беларусі

## Новая серыя

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

199. **Валатко** (Дзмітрый) - вытвор з фармантам *-ко* ад антрапоніма *Волат* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Волат-ко - Валатко.* ФП: *волат* ('асілак, велікан') - *Волат* (мянушка, потым прозвішча) - *Валатко*.

200. **Валашчук** (Васіль) - вытвор з суфіксам *-чук* ад антрапоніма *Валах* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Валаш(х/ш)-чук*. ФП: *валах* ('той, хто кастрыруе (пакладае)') - *Валах* (мянушка, потым прозвішча) - *Валашчук*.

201. **Валдайцаў** (Дзяніс) - вытвор з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма *Валдаец* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Валдаец-аў - Валдайцаў*. ФП: *Валдай* (тапонім) - *Валдаец* ('жыхар Валдая') - *Валдайцаў*.

202. **Валковіч** (Ірына) - вытвор з акцэнтаваным суфіксам *-овіч* ад антрапоніма *Волк* (рус.) і значэннем 'нашчадак названай асобы' *Валк-овіч*. ФП: *волк* (апелятыў, белар. *воўк*) - *Волк* (мянушка, потым прозвішча) - *Валковіч*. Форму *Валковіч* можна кваліфікаваць як вынік адмежавання ад апелятыва.

203. **Валовая** (Тацццяна) - форма жан. роду ад *Валовы* - семантычны вытвор ад апелятыва *валовы* 'які мае адносіны да вала', 'такі, як у вала', а валовыя вочы - 'вялікія, лупатыя, невыразныя'.

204. **Валовіч** (Астафій) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Вол* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Вол-авіч - Валовіч*. ФП: *вол* ('кастрыраваны самец буйнай рагатай жывёлы') - *Вол* (мянушка, потым прозвішча) - *Валовіч*.

205. **Валошчык** (Мікола) - вытвор з суфіксам *-чык* ад антрапоніма *Валошка* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Валошч(к/ч)-ык*. ФП: *валошка* ('травяністая расліна сямейства складанакветных, якая расце ў жыце і іншых злаках і цвіце сінімі кветкамі; васілёк') - *Валошка* (мянушка, потым прозвішча) - *Валошчык*. Або вытвор ад *валах* (ст. бел. 'конь' (Нас.)), батан. назва некалькіх раслін (Даль), 'парсюк' (Дабр.), 'пакладаны баран', 'той, хто пакладае' (Грынч.); - ад *валашыць* 'пакладаць' (Нас.) - *Валах* (мянушка, потым прозвішча) - *Валаш (х/ш)-чык - Валошчык* (для адмежавання ад апелятыва (*валах*)).

206. **Валчанкоў** (Аляксандр) - вытвор з прыналежным суфіксам *-оў* ад антрапоніма *Валчанок* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Валчанк-оў*. ФП: *волчонок* (рус. 'малады воўк, ваўчаня') - *Валчонак* (мянушка, потым прозвішча) - *Валчанкоў* (<*Волченков*).

207. **Валюшыцкі** (Віктар) - вытвор з фармантам *-ыцкі* ад тапоніма *Валюш / Валюшня* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Валюш-ыцкі*. ФП: *валюш* і *валюшня* ('майстэрня, у якой валяць сукно, шэрсць') - *Валюш* (тапонім) - *Валюшыцкі*.

208. **Вангін** (Андрэй) - вытвор з прыналежным суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Ванга* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Ванг-ін*. ФП: *Ванга* (імя) - *Ванга* (прозвішча) - *Вангін*.

209. **Ванькевіч** (Наталля) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Ванька* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Ванькевіч*. ФП: *Іван* (імя -ст.-яўр. iohanan 'Бог мілуе') - *Ваня, Ванька* (разм. да *Іван*) - *Ванька* (празванне, потым прозвішча) - *Ванькевіч*.

210. **Ванюкевіч** (Яраслава) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Ванюк* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Ванюк-евіч*. ФП: *Іван* (ст.-яўр. iohanan 'Бог мілуе') - *Ваня - Ванюк - Ванюкевіч*.

211. **Варанец** (Віктар) - семантычны вытвор ад апелятыва *варанец* 'ядавітая травяністая расліна сямейства лютыкавых з чырвонымі ці чорнымі ягадамі'. Або ад тапоніма *Вароны* з нацыскным суфіксам *-ец* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Варонец - Варанец*. Ці ад антрапоніма *Варона / Воран* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Варон-ец / Воранец - Варанец*.

212. **Варонін** (Рыгор) - вытвор з прыналежным суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Варона* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Варон-ін*. ФП: *варона* ('птушка сямейства крумкачовых з чорна-шэрым або чорным апярэннем') - *варона* ('пра чалавека, які рэзка вылучаецца чым-н. сярод іншых') - *Варона* (мянушка, потым прозвішча) - *Варонін*.

213. **Варывончык** (Адам) - вытвор з суфіксам *-чык* ад антрапоніма *Варывон* і азначэннем 'нашчадак названай асобы': *Варывончык*. ФП: *Іларыён* (імя, з мовы грэкаў 'вясёлы') - *Варывон* (гут. форма) - *Варывончык*.

214. **Васілёк** (Міхась) - семантычны вытвор ад апелятыва *васілёк* `травяністая расліна сямейства складанакветных, якая расце звычайна ў азімых пасевах і цвіце сінімі кветкамі; валошка`. Або вытвор з суфіксам *-ёк* ад імя *Васіль*: *Васіл-ёк* (пам.-ласк.).

215. **Васілёўкіна** (Тацццяна) - вытвор з фармантам *-іна* ад антрапоніма *Васілёўка* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Васілёўк-іна*. ФП: *Васіль* (імя, з мовы грэкаў 'цар') - *Васілёўка* ('Васілёва жонка', фармант *-оўка*) - *Васілёўка* (мянушка, потым прозвішча) - *Васілёўк-іна*.

216. **Васілеўскі** (Мікола) - вытвор з фармантам *-скі* ад тапоніма *Васілеўка* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Васілеў-скі - Васілеўскі*.

217. **Васкабойнік** (Валянціна) - семантычны вытвор ад апелятыва *васкабойнік* 'той, хто працуе на васкабойні - заводзе, майстэрні па вырабе воску і яго перапрацоўцы'.

218. **Васюкевіч** (Раман) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Васюк* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Васюкевіч*. ФП: *Васіль* (імя, з мовы грэкаў basileus 'цар') - *Васюк* (народна-гутарк. форма) - *Васюк* (празванне, потым прозвішча) - *Васюкевіч*.

219. **Васюковіч** (Васіль) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Васюк* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Васюковіч*. ФП: *Васіль* (імя, з мовы грэкаў 'цар') - *Вася* (народна-гутарк. форма), *Васюк* ('нашчадак Васі', фармант *-юк*) - (прозвішча) - *Васюковіч*.

220. **Ваўкарэзавец** (Андрэй) - вытвор з суфіксам *-ец* ад антрапоніма *Ваўкарэзаў* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Ваўкарэзавец*. ФП: *ваўкарэз* ('вялікі паляўнічы сабака') - *Ваўкарэз* (мянушка, потым прозвішча) - *Ваўкарэзаў* ('нашчадак *Ваўкарэза*, фармант *-аў*') - *Ваўкарэзавец*.

221. **Вашко** (Лявон) - варыянт імя *Іван* (<ст.-яўр. 'Бог мілуе'), зафіксаванае ў друку ў 1591 г.), які набыў ролю прозвішча (праз ступень празвання).

222. **Вашчук** (Юрась) - другасная форма, першасная *Івашчук*, вытвор з суфіксам *-ук* ад антрапоніма *Івашка* і значэннем `нашчадак названай асобы: `*Івашч (к/ч) - ук*`. ФП: *Іван* (імя ст.-яўр. 'Бог мілуе') - *Іваш* (гутарк. форма) *Івашка* (пам.-ласк.) - *Івашчук*. Намінант выступаў на Еўрабачанні пад найменнем *Тэа / Тэо*, якое ад грэц. *Theos* - 'Бог'.

223. **Вежавец** (Альфрэд) - трансфармаваны пад мужчынскі род антрапонім *Вежавіца* (з фінальнай часткай *-ец* на месцы *-іца*). Або вытвор з суфіксам *-ец* ад антрапоніма *Вежава* і значэннем 'народзінец, жыхар названага паселішча': *Вежав-ец*.

224. **Вежавіца** (Антаніна) - семантычны вытвор ад апелятыва *вежавіца* 'аднагадовая травяністая расліна сямейства крыжакветных з дробнымі жаўтаватымі кветкамі і стручковымі пладамі'.

225. **Века** (Ала) - семантычны вытвор ад апелятыва *века* 'верхняя частка, якая служыць пакрыццём якой-н. пасудзіны, скрынкі, каробкі і пад.'.

226. **Венгураў** (Павел) - вытвор з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма *Венгур* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Венгур-аў*. ФП: *венгур* (*-венгер*, мн. *венгры* 'народ, які складае асноўнае насельніцтва Венгрыі' або *венгер* 'канавал' рэг.)) - *Венгур* (мянушка) - *Венгур* (прозвішча) - *Венгураў*. Форма з галоснай 'у' замест '*е*' дзеля адмежавання ад апелятыва.

227. **Верашчагін** (Леанід) - другасная форма, першасная *Верашчакін* - вытвор з прыналежным суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Верашчака* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Верашчак-ін*. ФП: *верашчака* ('рэдкая мучная страва з мясам, каўбасой і рознымі прыправамі') - *Верашчака* (мянушка, потым прозвішча) - *Верашчакін* - *Верашчагін*.

228. **Верашчака** (Надзея) - семантычны вытвор ад апелятыва *верашчака* 'рэдкая мучная страва з мясам, каўбасой і рознымі прыправамі'.

229. **Весялуха** (Марына) - семантычны вытвор ад апелятыва *весялуха* 'жанчына з вясёлым норавам; ахвотніца павесяліцца'.

230. **Віславух** (Кацярына) - семантычны вытвор ад апелятыва *віславух* `віславухая жывая істота (свойская - сабака, кот)`, перан. `чалавек з вялікімі, абвіслымі вушамі`. ФП: *віслае вуха - віславухі - віславух - Віславух* (мянушка) - *Віславух*.

231. **Вішкароў** (Барыс) - вытвор з прыналежным суфіксам *-оў* ад антрапоніма *Вішкар* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Вішкар-оў*. ФП: *вішка* ('вяха, тычка' - Вялікі слоўнік беларускай мовы Ф. Піскунова - *вішкар* ('той, хто ставіць вяхі, тычкі',суф. *-ар*) - *Вішкар* (мянушка) - *Вішкар* (прозвішча) - *Вішкароў*.

232. **Вішнеўская** (Іна) - вытвор з фармантам *-ская* ад тапоніма *Вішнеўка* і значэннем 'народзінка, жыхарка названай мясцовасці, паселішча': *Вішнеў(к)-ская*. ФП: *вішня* ('садова-ягаднае дрэва сямейства ружакветных з цёмна-чырвонымі костачкавымі пладамі') - *вішнеўка* ('заraснік вішнёвы', а таксама 'вішнёвая наліўка або настойка') - *Вішнеўка* (тапонім) - *Вішнеўская*.

233. **Войцік** (Марыя) - вытвор з суфіксам *-ік* ад антрапоніма *Войт* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Вой(ц)-ік*. ФП: *Войцех* (імя, слав. ад асноў са значэннем *вой* 'ваяўнік' і *цех* 'уцеха, пацеха') - *Войт* (народны варыянт) - *Войт* (празванне, потым прозвішча) - *Войцік*.

234. **Волан** (Андрэй) - акцэнтаваны семантычны вытвор ад апелятыва *валан* 'лёгкі мячык з пер'ем або шырокім хвалістым абадком для гульні ў бадмінтон', 'прышыўная палоска лёгкай тканіны або карунак у выглядзе фальбоны ці брыжоў на сукенцы' (-фр. *volant*).

235. **Волах** (Надзея) - семантычны вытвор ад апелятыва *волах* (рус. *волох* 'юшка', 'накрыўка на пасудзіне (Мельн.)') - *Волах* (мянушка) - *Волах*.

236. **Волік** (Арцём) - семантычны вытвор ад апелятыва *волік* (пам.-ласк. ад *вол*) (Падручны гістарычны слоўнік субстантыўнай лексікі, 2013).

237. **Волчэк** (Антон) - магчымы семантычны вытвор ад апелятыва *волчэк* (белар. *воўчэк* 'рыба, падобная на яршa, але з таўсцейшай галавой, шырокім ротам і больш цёмнай афарбоўкай лускі'. Або з рас. *волчок* 'асот', 'дзіцячая цацка'; трансфармацыя *волчэк* (*-Воўчэк*) - *Волчок - Волчэк*.

238. **Воўчанка** (Аляксандр) - семантычны вытвор ад апелятыва (рэг.) *воўчанка* - эквівалент *ваўчанка* 'адзін з відаў туберкулёзу скуры'. Або ад *Воўк* (антрапонім) - вытвор з фармантам *-анка* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Воўч-анка*. Ці ад *Воўка* (*-Вова-Валадзімір*) - *Воўч(к/ч)-анка*.

239. **Вугалец** (Міхась) - вытвор з суфіксам *-ец* ад антрапоніма *Вугал / Вугаль* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Вугал-ец*. ФП: *вугал* ('геаметрычная фігура', 'частка пакоя, які здаецца ў наймы, кут', 'прыстанак, месца, дзе жывуць'), *вугаль* ('цвёрдае гаручае выкапнёвае рэчыва арганічнага паходжання', 'рэшткі няпоўнага згарання драўніны; кавалак абгарэлага дрэва') - *Вугал, Вугаль* (мянушка, потым прозвішча) - *Вугалец*. Або ў выніку анімізацыі апелятыва-экспрэсіва *вугалец* 'вугольчык'.

240. **Вуек** (Уладзімір) - семантычны вытвор ад *вуек* - <польск. *wujek* - *wuj* 'дзядзька, брат маці'.

241. **Выдрыцкі** (Чэслаў) - вытвор з фармантам *-скі* ад тапоніма *Выдры, Выдрыкі* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Выдрык-скі - Выдрыцкі* (*Выдр-ыскі - Выдрыцкі*).

242. **Вырвіч** (Пранціш) - вытвор з суфіксам *-іч* ад антрапоніма *Вырва* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Вырв-іч*. ФП: *вырваць* ('рэзкім рухам, рыўком выдаліць, дастаць, узяць') - *вырва* (`той, хто вырывае` - нульсуфіксавае ўтварэнне) - *Вырва* (мянушка) - *Вырва* (прозвішча) - *Вырвіч* (бацькайменне) - *Вырвіч*.

243. **Вярсоцкі** (Аляксандр) - вытвор з фармантам *-скі* ад тапоніма *Вярсоты / Вярсокі* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Вярсот-скі - Вярсоцкі, Вярсок-скі - Вярсоцкі*.

244. **Вятрынскі** (Міхась) - вытвор з фармантам *-скі* ад тапоніма *Ветрына* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Ветрын-скі - Вятрынскі*.

245. **Габрук** (Кірыл) - народна-гутарковая форма ад *Габрыель* (ст.-яўр. gabriel 'мая сіла - Бог') набыла ролю прозвішча.

246. **Гаварухін** (Станіслаў) - вытвор з прыналежным суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Гаваруха* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Гаварух-ін*. ФП: *гаваруха* (жан. да *гаварун* 'гаваркі чалавек') - *Гавар-уха - Гаваруха* (мянушка) - *Гаваруха* (прозвішча) - *Гаварухін*.

247. **Гаеўскі** (Андрэй) - вытвор з фармантам *-эўскі* ад тапоніма *Гай* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Гай-эўскі*. ФП: *гай* ('невялікі лес, пераважна лісцёвы, дуброва') - *Гай* (тапонім) - *Гаеўскі*.

248. **Гайдаш** (Міхаіл) - семантычны вытвор ад апелятыва *гайдаш* 'табуншчык' (пастух статка коней, аленяў і пад.).

249. **Гайко** (Андрэй) - форма ад імя *Гай* (<грэч. 'народжаны зямлёй') з далучэннем фарманта *-ко*: *Гайко* (з 1540 г.). Або як другасная форма - ад першаснай *гаёк* ('невялікі гай') - *Гаёк* на ўзор *браток* > *братко*.

250. **Галаваты** (Іван) - семантычны вытвор ад апелятыва *галаваты* 'з вялікай галавой', 'галавач', 'галавасты', 'разумны, здольны глыбока мысліць'; параўн. *чуб-аты*.

251. **Галавацкая** (Святлана) - вытвор з фармантам *-цкая (-ская)* ад тапоніма *Галавачы* і значэннем 'народзінка, жыхарка названай мясцовасці, паселішча': *Галавач-ская - Галавацкая*. ФП: *галавач* ('прэснаводная рыба сямейства карпавых з тоўстай і шырокай галавой, галавень') - *Галавач* (мянушка, потым прозвішча) - *Галавачы* (тапонім з прозвішчам *Галавач*) - *Галавацкая*.

252. **Галавацкі** (Ігнат) - вытвор з суфіксам *-цкі* ад антрапоніма **Галаваты**. ФП: *галаваты* ('з вялікай галавой', 'разумны, здольны глыбока мысліць; галавасты') - *Галаваты* (мянушка, потым прозвішча) - *Галавацкі*.

253. **Галагуцкі** (Антон) - семантычны вытвор ад апелятыва *галагуцкі* 'галандскі' (пра пароду курэй).

254. **Галенчанка** (Георг) - вытвор з фармантам *-анка* ад антрапоніма *Галёнка* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Галёнч (к/ч) - анка - Галенчанка*. ФП: *галёнка* ('частка нагі ад калена да ступні') - *Галёнка* (мянушка, потым прозвішча) - *Галёнчанка - Галенчанка*.

255. **Галец** (Вольга) - семантычны вытвор ад апелятыва *галец* 'невялікая рачная рыбка сямейства карпавых', 'марская рыба сямейства ласасёвых'.

256. **Галіч** (Аляксей) - семантычны вытвор ад апелятыва *галіч* (часцей *галічанін*) 'з Галіцы'. Або вытвор з суфіксам бацькаймення *-іч* ад антрапоніма *Гала* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Гал-іч*. ФП: *гала* ('голае месца, чыстая прастора') - *Гала* (мянушка, потым прозвішча) - *Галіч*.

257. **Галкін** (Павел) - вытвор з прыналежным суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Галка* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Галк-ін*. ФП: *галка* ('птушка сямейства крумкачовых з шэра-сіня-цёмным апярэннем', а таксама 'тое, што і галушка' ('круглы камяк, шарык, скачаны з чаго-н. мяккага', страва ў выглядзе клёцак з дранай бульбы або мукі, звараная на бульёне ці малацэ) - *Галка* (мянушка, потым прозвішча) - *Галкін*.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# "ЖЫЎ Я, НЕ СХІЛІЎШЫ ГАЛАВУ…"

## *Да 100-годдзя Пімена Панчанкі*



*Нарадзіўся П. Панчанка 23 жніўня 1917 года ў Таліне ў сям'і рабочага. У 1934-м закончыў педагагічныя курсы ў Бабруйску, пасля - філалагічны факультэт Менскага настаўніцкага інстытута (1939). Прымаў удзел у паходзе Савецкай Арміі ў Заходнюю Беларусь. Працаваў настаўнікам, у рэдакцыях часопіса "Вожык", газеты "Літаратура і мастацтва", галоўным рэдактарам часопісаў "Советская Отчизна" (цяпер "Нёман", 1954-1958), "Маладосць" (1958 - 1966), сакратаром праўлення СП БССР (1966 - 1971). У складзе дэлегацыі БССР у 1958 годзе прымаў удзел у рабоце XIII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР (1957-1967), (1971-1975). Памёр 2 красавіка 1995 г.*

Споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Беларусі, ганаровага акадэміка НАН Беларусі Пімена Панчанкі.

Пімен Панчанка - адзін з буйнейшых беларускіх паэтаў XX ст. Яго творчасць прасякнута гарачлівымі мастакоўскімі шуканнямі, ненатольнымі эмоцыямі і страсцямі, імкненнем да высокіх ідэалаў і сумненнямі ў іх, адчуваннем шматгалосся жыцця і яго вострых супярэчнасцей. Пра Панчанку смела можна сказаць, што ён - сын сваёй эпохі і адначасова яе апанент.

На працягу свайго жыцця паэт быў у неадназначных адносінах з дзяржаўнай уладай, але меў почэснае званне Народнага паэта Беларусі (1973), з'яўляўся Ганаровым членам АН Беларусі (1994), лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР (1981, за кнігу вершаў "Где ночует жаворонок?"), Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы (1968, за зборнік вершаў "Пры святле маланак"), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1959, за паэму "Патрыятычная песня").

У першых вершах цяжка пазнаць будучага няўрымслівага, палемічнага, філасофска-публіцыстычнага П. Панчанку, якім ён стаў пазней. Паэт не выходзіць за межы традыцыйнай паэтыкі. Аднак ужо ў некаторых даваенных рэчах ("Пра смерць", "Беластоцкія вітрыны" і інш.) ён быццам бы хоча пашырыць абсягі маналагічнасці, шукае шляхі да поліфанічнасці стылю, што мог бы зблізіць з жыццём і яго супярэчнасцямі, з рознымі пунктамі гледжання.

У суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны слова Панчанкі дасягнула высокага грамадзянскага ўздыму і лірычнай пранікліваcці. У яго перажываннях арганічна спалучыліся любоў і нянавісць. Літаратурная прадукцыя паэта-франтавіка вельмі разнастайная: публіцыстычныя і сатырычныя вершы, фельетоны, востра-надзённыя артыкулы, нарысы. Многія з яго ваенных вершаў распаўсюджваліся на часова акупаванай ворагам Беларусі як лістоўкі. Іх і цяпер можна сустрэць у музеях Вялікай Айчыннай вайны. П. Панчанку давялося ваяваць на чатырох франтах: Заходнім, Бранскім, Калінінскім, Паўночна-Заходнім, а Дзень Перамогі сустракаць ажно ў Іране, куды ён нечакана трапіў разам са штабам арміі і рэдакцыяй франтавой газеты, у якой служыў, на пачатку 1944 г. Усё гэта яскрава адлюстравана ў яго творчасці.

Пасляваенная паэзія П. Панчанкі вельмі разнастайная з тэматычнага боку: ён услаўляе стваральную дзейнасць савецкага народа, барацьбу за мір, выкрывае падпальшчыкаў новай вайны, імкнецца паказаць шматгранны вобраз Радзімы. У Панчанкі адна за другой выходзяць кнігі "Прысяга" (1949), "За шчасце, за мір!" (1950). Не жадаючы адстаць ад імклівага дня, паэт даволі аператыўна адгукаўся на розныя даты, юбілеі, але, імкнучыся адлюстраваць з'явы рэчаіснасці, не заўсёды мог улавіць глыбінную, шматгранную сувязь часу і чалавека, знайсці тое, што звязвае справу чалавека з яго душэўным самаадчуваннем, слова з учынкам, "грамадзянскае" з "маральным", "інтымным". Тым не менш, у цэлым яго паэзія шмат у якіх момантах разышлася з праўдай жыцця і з тым "чалавечым вымярэннем", якое складае яго гуманістычную сутнасць. У многіх вершах аўтар выдаваў жаданае за рэальнае.

Сярэдзіна 1950-х гг. адзначана спробай дэмакратычнага абнаўлення грамадства. Але ідэалагічная ангажаванасць і вера ў камунізм не пахіснуліся. Ленінскія ідэі ў тагачаснай творчасці Панчанкі былі спалучаны з традыцыйнымі каштоўнасцямі народнага быцця, і гэтую спалучанасць ён высока цаніў і правяраў ёю рэальны змест грамадскага жыцця. Паўставала аднак неадчэпнае пытанне: хто ж вінаваты ў памылках і недахопах, у парушэннях так званай рэвалюцыйнай законнасці? Ён і тады, і пазней быў упэўнены, што ёсць сапраўдныя савецкія людзі, а побач *"мноства абывацеляў, здзірцаў, якія дбаюць толькі аб чынах, пасадах, грошах, машынах, дачах, уладзе ды салодкім жыцці…"*

У 1960-х мастацкі свет паэта набывае плюралістычнасць, якой яму раней не ставала, - шматколернасць, своеасаблівы паліфанізм, шматсэнсавасць. Па прычыне гэтай плюралістычнасці не ўсё, што выходзіла з-пад пяра, адразу трапляла ў друк. Яго тагачасная паэзія становіцца ўсё больш спавядальнай і аналітычнай. Філасафічнасць прыйшла да Панчанкі з узростам - у 1967 г. ён адзначыў сваё пяцідзесяцігоддзе. Яго радок станавіцца больш і больш удумлівы: у вершах адбіваўся роздум над сэнсам жыцця і часам.

З біяграфіі творцы вядома, што яго дзяцінства прайшло на мілай сэрцу Бягомльшчыне, на лясным улонні. Адсюль бярэ выток вобраз "сваёй баравіны", які ўзнікае ў яго паэзіі ў 1970-я гг. Пасля дзесяткаў твораў аб "малой радзіме" і дзяцінстве вершы Панчанкі захапляюць чытача новым пунктам гледжання, свежым паваротам тэмы, выклікаюць нечаканыя асацыяцыі. Перамога над прыродай, на думку паэта, вядзе да адмаўлення жыцця, паэзіі, да іх знішчэння. Тэму гарманічнасці чалавека і прыроды, пераадолення адчужанасці ён развівае на многіх старонках сваіх паэтычных кніг 70 - 80-х гг. і ў дзённікавых запісах.

Творчая эвалюцыя Панчанкі - прыклад таго, як разам з часам развівалася творчая самастойнасць мастака, як ён усё глыбей авалодваў думкай пра неабходнасць сувязі ідэала з жыццём прагрэсу, з гуманізмам.

Што аднак не здраджвае паэту - гэта любоў да жыцця ва ўсіх яго праявах, да роднай прыроды і побыту. Адметнымі паэтычнымі з'явамі пачатку 1980-х гг. у гэтым сэнсе сталі зборнікі "Маўклівая малітва" (1981), "Сіні ранак" (1984), у якіх ён падвойвае і патройвае свае намаганні прарвацца праз наслаенні ілжывасці, хлусні, казёншчыны, спажывецтва, прыстасавальніцтва і зноў далучыцца да першаснай і ўстойлівай чалавечай прыроды.

Знешне яго вершаваныя формы выглядаюць традыцыйна, але гэта толькі на першы погляд. Асаблівасці мастацкай формы строга падначалены змястоўным задачам. Лірычнае дзеянне падкрэсліваецца і ўзмацняецца сродкамі гнуткай, выразнай і надзвычай актыўнай паэтыкі. Незвычайная моўная экспрэсіўнасць выклікана дынамікай думкі і эмоцый, ледзь улоўнымі імгненнымі пераходамі аднаго пачуцця ў другое, глыбокім лірызмам. Пейзаж з уласцівымі для яго дэталямі дае адчуванне бязмежнасці жыцця, якое далёка выходзіць за рамкі вершаванага тэксту. Характэрная паэту ўнутраная палемічнасць у гэты час нечым аддалена напамінае Дастаеўскага.

З сярэдзіны 1980-х гг. пачаўся перыяд перабудовы. Кнігі Панчанкі напаўняюцца галасамі самога жыцця, да бясконцасці, як аказваецца, шматстайнага, складанага і зменлівага. Да перабудовы паэт паставіўся, як нам здаецца, шчыра, але, як гэта здаралася з ім часам і раней, надта паспешліва.

З апошніх кніг П. Панчанкі варта адзначыць "Высокі бераг" (1993) і "Зямля ў мяне адна" (1996). У іх таксама бурліць дух эпохі. На старонках гэтых кніг створаны тыповыя вобразы настрояў, перажыванняў, якія ўрэшце і выяўляюць светаўспрыманне і светаадчуванне сучасніка. Паэт як бы расцугляў словы і выпусціў іх на волю, з жахам зразумеўшы, што свет заблытаўся, што ўсе ідэі перажываюць дэвальвацыю. Але адна ідэя не адпускала яго да канца жыцця. Гэта - ідэя нацыянальнага адраджэння, якая стукалася ў паэзію Панчанкі многімі тэмамі і матывамі яго творчасці, у тым ліку і тэмай духоўнай экалогіі, абароны і захавання роднай мовы і культуры.

Надыходзіла старасць, жыццё няўмольна набліжалася да сваёй "апошняй вярсты", і такая перспектыва аптымізму не дабаўляла. Аднак сум вынікаў не толькі з прадчування "апошняй вярсты" - была яшчэ і другая крыніца для мінорнага настрою. У абліччы свабоды ён убачыў не толькі жыццядбайныя, шматабяцальныя рысы, але і жорсткасць, усёдазволенасць.

Спадчына, якую пакінуў пасля сябе П. Панчанка, нераўнацэнная ў ідэйна-мастацкіх адносінах. Нешта ўжо сёння ўспрымаецца як дакумент свайго часу, аднак большасць з твораў застанецца каштоўным духоўна-эстэтычным набыткам для будучых пакаленняў - людзей XXI стагоддзя.

***Уладзімір Гніламедаў,*** *акадэмік НАН Беларусі.*
***Мікола Мікуліч,*** *канд. філалагічных навук.*

# Святкаванні ў Полацку

Вялікая колькасць беларусаў рознага ўзросту змагла асэнсаваць веліч асветніцкага подзвігу Францішка Скарыны праз удзел у Днях беларускага пісьменства і друку ў Полацку 2-3 верасня.



Па ўсім горадзе прайшло шмат літаратурных, музычных, мастацкіх, і тэатральных мерапрыемстваў, прысвечаных гісторыі Полацка, жыццю Ф. Скарыны і Е. Полацкай. Турыстычныя групы з розных гарадоў краіны прыбылі ў Полацк.

Адну з такіх груп ўзначаліў гісторык і экскурсавод Іван Сацукевіч. Разам з ім вандроўнікі наведалі Сафійскі сабор, агледзелі найноўшы помнік "Полацк - калыска беларускай дзяржаўнасці", помнік самому Скарыну, а таксама пісьменніку, багаслову, кнігавыдаўцу Сімяёну Полацкаму, літары "Ў" і памятнаму знаку геаграфічнага цэнтра Еўропы, першай жанчыне-святой усходніх славян Еўфрасінні Полацкай, легендарнаму полацкаму князю Усяславу Чарадзею, а таксама героям вайны 1812 года, наведалі Полацкі музей беларускага кнігадрукавання.



На пытанне, чым для яго быў адметны год 500-годдзя айчыннага кнігадрукавання, гісторык Іван Сацукевіч адказаў:




- Мы правялі безліч вандровак па Беларусі. Мяне вельмі ўсцешвае сёлетняя вялікая рэкламная і выдавецкая кампанія, прысвечаная Францішку Скарыну. Яна, безумоўна, паслужыць уздыму патрыятызму. Дзень беларускага пісьменства і друку ў Полацку - кульмінацыйная падзея юбілейнага года. Такая вялізарная ўвага да вычыну Скарыны назіралася ў 1990 годзе. Думаю, што імем Скарыны яшчэ будуць названыя многія геаграфічныя аб'екты ў нашай краіне. У Полацку ўжо дзесяць гадоў таму праспект К. Маркса быў перайменаваны ў праспект Скарыны. Для міжнароднага кангрэсу, які пройдзе ў Нацыянальнай бібліятэцы ў верасні, я падрыхтаваў даклад па тэме: "Імя Скарыны - у тапаніміцы гарадоў Беларусі".

Пакуль турысты аглядалі архітэктурныя помнікі, у цэнтры горада праходзілі выступленні полацкіх паэтаў і празаікаў. З чытаннем сваіх твораў выступілі сябры Полацкага літаратурнага аб'яднання "Полоцкая галіна". Аляксандр Раткевіч чытаў свае вершы ў вобразе першадрукара. Для гасцей заспявалі Галіна Ліфанава і бард Зміцер Ветразь. На плошчы быў шырока разгорнуты кнігапродаж, шапікі рэгіянальнага друку. У цэнтры горада дзейнічалі друкары, якія ў межах праекту "У пошуках страчанага" дэманстравалі ўсім ахвотным старажытную тэхніку кнігадрукавання. Супрацоўнікі музея кнігадрукавання на працягу некалькіх дзён праводзілі экскурсіі для студэнтаў і школьнікаў, дэманструючы скарынаўскую "Малую падарожную кніжку" з калекцыі Белгазпромбанка і іншыя каштоўныя рарытэты.

***Эла Дзвінская,***
*фота аўтара і Радыё Рацыя.*

1. Гісторык Іван Сацукевіч;
2. Паэт Алесь Раткевіч у вобразе першадрукара;
3. "Наша слова" ў Полацку.

# Свабода, піва, музыка і мова на Lidbeer - 2017






120 тысяч чалавек, па звестках з Гарадзенскага УУС, прынялі ўдзел у піўным фестывалі ў Лідзе, які праводзіўся тут ужо трэці раз.

Lidbeer - 2017 зрабіў стаўку на якасную музыку і беларускую мову. Ну а пра лідскае піва можна не казаць, яно заўсёды якаснае.

Усе госці, як адзін, адзначаюць таксама прыветлівыя і добразычлівыя адносіны з боку лідскай міліцыі. Тая ў сваю чаргу заявіла пра адсутнасць падчас фэсту хоць якіх больш-менш значных правапарушэнняў.

Якасную музыку забяспечвалі "Акіян Эльзы", "Крамбамбуля", "Lumen", "Петля пристрастия" і шэраг маладых гуртоў, а карцінка і гук былі такія, што хоць купляй білет, хоць так глядзі і слухай.

А ў панядзелак да 9.00 на месцы правядзення фестывалю не засталося ўжо ні адной паперкі. Амаль Еўропа.

***Наш кар.***

# Моладзь, якая прагла пераменаў



6 верасня святочнай вечарынай адзначыў 20-годдзе "Малады фронт". Арганізацыя аб'ядала некалькі пакаленняў маладзёнаў незалежнай беларускай дзяржавы.

Пра феномен уздыму дзейнасці "Маладога фронту" ў 90-тыя, 2000-ыя гады развагалі былыя сябры арганізацыі, а таксама грамадскія дзеячы і палітыкі. У тыя часы арганізацыю актыўна папаўняла моладзь, якая спачувала нацыянальнаму руху. Моладзь ладзіла масавыя акцыі, культурніцкія мерапрыемствы, асветніцкія кампаніі, праводзіла шоў Беларушчыны ў школах і гімназіях. Дзейнасць арганізацыі грунтавалася на веры ў ідэалы і ў адданасць роднай зямлі.

Былыя актывісты арганізацыі сёння працуюць у незалежных СМІ (Вольга Анцыповіч, Барыс Гарэцкі, Юлія Дарашкевіч, Алесь Кіркевіч), з'яўляюцца паспяховымі музычнымі прадзюсарамі, турыстычнымі і культурніцкімі менеджарамі (Віталь Супрановіч, Зміцер Каспяровіч, Алег Дзьячкоў і інш), праваабаронцамі і палітыкамі (Уладзімір Лабковіч, Аляксей Янукевіч), пісьменнікамі (Аляксей Шэін і Павел Севярынец).

- Гэта быў свайго роду бунт дзяцей перабудовы, у якіх забралі краіну пасля рэферэндуму 1995 года, - так ахарактэрызаваў з'яву юрыст і праваабаронца Уладзімір Лабковіч, які ў канцы 90-тых гадоў ачольваў Свіслацкую раду Менскай арганізацыі, а зараз працуе ў праваабарончым цэнтры " Вясна".

- Мы адчувалі, што ў тыя часы дзеці здабывалі свабоду бацькам, - адзначыла журналістка Любоў Лунёва, якая пастаянна асвятляла падзеі, звязаныя з "Маладым фронтам".

Прадстаўнікі старэйшага пакалення арганізацыі пажадалі маладым захоўваць нашы нацыянальныя каштоўнасці, верыць у свае сілы, заставацца сумленнымі, яднацца ў творчых суполках, скаўцкіх групах, пілігрымках, спартовых клубах.

Некаторыя з былых маладафронтаўцаў распавялі пра сваю цяперашнюю дзейнасць. Сяржук Лісічонак атрымаў дзве магістарскія адукацыі ў Літве і ў ЗША па паліталогіі і дзяржаўным кіраванні, паспрабаваў свае сілы, працуючы ў ААН.

Зміцер Каспяровіч у якасці турыстычнага менеджара ў апошнія гады наведаў Мексіку, Непал, Эфіопію, Індыю, Вялікабрытанію, марыць пабываць у Кеніі і Танзаніі. Зміцер кажа, што яму давялося пабачыць жыццё ў розных краінах і параўнаць стан эканомікі і свабодаў асобы ў розных дзяржавах, ён бачыў галечу і несправядлівасць, прыгнечанасць жанчын, і яшчэ больш палюбіў Беларусь, нягледзячы на яе праблемы.

***Эла Дзвінская,***
*фота аўтара.*




### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Галай Аркадзь - 10 р., г. Менск
2. Гіль - 50 р., г. Менск
3. Лагуціна Марына - 5 р., г. Менск
4. Сінкевіч Вольга - 5 р., г. Менск
5. Ляпёшкін Андрэй - 10 р., в. Зара, Круглянскі р-н
6. Казановіч Андрэй - 10 р., г. Менск
7. Плакса Ўладзімір - 15 р., г. Менск
8. Мянчанін - 10 р., г. Менск
9. Анісім Алена - 100 р., г. Менск
10. Касяк Кастусь - 10 р., г. Менск
11. Краўчанка Л. - 70 р., г. Менск
12. Петрашкевіч Міхась - 10 р., г. Іванава
13. Панасюк А.П. - 10 р., п. Лясны, Менскі р-н
14. Асіпцова Алена - 9 р., г. Магілёў
15. Восіпава Аляксандра - 10 р., г Гомель
16. Старыкевіч Б.У. - 20 р., г. Менск
17. Чыгір Яўген - 10 р., г. Гародня
18. Бойса І.Б. - 15 р., г. Ліда
19. Карабач Віталь - 10 р., в. Пескі, Лідскі р-н
20. Сцяцко Павел - 20 р., г. Гародня
21. Кукавенка Іван - 15 р., г. Менск
22. Мануленка Ўладзімір - 5 р., г. Берасце
23. Лапацін Уладзімір - 30 р, Менскі р-н
24. Шэвякова Святлана - 20 р., г. Менск
25. Пятроў Іван - 10 р., г. Калінінград
26. Арбузаў Анатоль - 10 р., г. Менск
27. Рыбачонак А. - 30 р., в. Міханавічы, Менскі р-н
28. Кот Валер - 5 р., г. Менск
29. Гасанаў - 5 р., г. Менск
30. Амяльковіч А.М. - 60 р., г. Менск
31. Дзівак з-над Дзісны - 10 р.
32. Жыдаль Дзяніс - 20 р., г. Менск
33. Галаўнёў Мікола - 10 р., г. Менск
34. Галкоўскі Віктар - 15 р., г. Баранавічы
35. Шкірманкоў Фелікс - 10 р., г. Слаўгарад
36. Бамбіза Мікола - 60 р., г. Менск
37. Зылькоў С.П. - 40 р., г. Гародня
38. Салавей Валянціна - 20 р., г. Менск
39. Панасюк А.П. - 10 р., г. Менск
40. Ахрамчук В.Г. - 10 р., г. Светлагорск

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № BY84BLBB30150100129705001001 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанк" IBAN - BLBBBY2X (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

Паведамленне

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка BY84BLBB30150100129705001001 Асабовы рахунак BLBBBY2X

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Касір

Пеня
Разам
Плацельшчык

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка BY84BLBB30150100129705001001 Асабовы рахунак BLBBBY2X

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Квітанцыя

Касір М.П.

Пеня
Разам
Плацельшчык



№ 37 (1344) 13 ВЕРАСНЯ 2017 г. Наша слова

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

*Алег Трусаў*

# Гісторыя сярэднявечнай Еўропы (V - XV стагоддзі)

**РАЗДЗЕЛ XVIII. ВКЛ У XIV-XV стст.**

*1. Уладаранне Гедыміна.*
*2. ВКЛ у часы Альгерда і Кейстута.*
*3. Вялікі князь Вітаўт і яго княжанне.*
*4. ВКЛ пад уладай Казіміра Ягелончыка.*

**1. Уладаранне Гедыміна (1316-1341)**

У часы Гедыміна ў ВКЛ увайшлі беларускія землі аж да Дняпра, прычым мірным шляхам, праз дынастычныя саюзы. Гэта былі: Віцебскае княства (1320 г.), Менскае (1326 г.), а пазней Тураўскае і Пінскае. Актыўныя ваенныя дзеянні Гедымін вёў на захадзе з крыжакамі. Напачатку княжання Гедыміна сталіцай ВКЛ заставаўся Навагрудак.

На працягу XIII і ў пачатку XIV стст. Навагрудак заставаўся сталіцай ВКЛ яшчэ і таму, што ён не толькі асацыяваўся з вялікакняжацкай уладай, але і быў абраны рэзідэнцыяй для *літоўскага мітрапаліта Канстанцінопальскай праваслаўнай царквы*, суфраганамі якога сталі тураўскі і полацкі епіскапы.

На 1323 г. у ВКЛ існавалі толькі тры каталіцкія храмы - з іх два ў Вільні і адзін у Навагрудку. Пасля стварэння ў 1316 г. Літоўскай мітраполіі Навагрудак на два стагоддзі становіцца царкоўна-рэлігійным цэнтрам ВКЛ. Праваслаўны храм, асабліва ў часы Альгерда, мог быць і ў Крэве, дзе жыло шмат славянскага насельніцтва.

Магчыма, праваслаўная капліца магла існаваць і ў Крэўскім замку гэтаксама, як і ў Лідскім.

Пра ролю Навагрудка ў XIV ст. сведчыць таксама пабудова на тэрыторыі Навагрудскага замка мураванага палаца і праваслаўнай царквы. Некаторыя археолагі лічаць, што царква была пабудавана ў першай палове XIV ст., а двухпавярховы палац - у сярэдзіне ці другой палове XIV ст. Не выключана, што ініцыятарам гэтага будаўніцтва быў вялікі князь Альгерд, які спрыяў пашырэнню праваслаўя на тэрыторыі ВКЛ. Магчыма, што пасля пераносу сталіцы ВКЛ Гедымінам у 1323 г. у Вільню, Навагрудак яшчэ доўга заставаўся другім сталічным горадам ВКЛ.

Даследчыкі называюць Вільню "старым крывіцкім горадам", які ўзнік у XI-XII стст. Мікола Ермаловіч лічыў, што віленскі ўдзел Полацкага княства быў створаны на пачатку XII ст. Першым віленскім князем ён называе *Давіла* (магчыма, *Давіда*) і ад яго выводзіць радавод князёў ВКЛ *Гердзеня*, Віценя і Гедыміна.

Гісторык-даследчык ВКЛ Аляксандр Краўцэвіч лічыць, што перанос сталіцы ў Вільню быў стратэгічным разлікам Гедыміна, (бо адсюль было больш зручна кіраваць найважнейшым заходнім вектарам замежнай палітыкі ВКЛ.

На былой Крывой гары Гедымін будуе *Верхні мураваны замак*. У 1321 г. у Вільні былі касцёлы дамініканцаў і францысканаў, а таксама праваслаўная *Міхайлаўская царква*. Было тут і язычніцкае



***Вялікі князь Гедымін (малюнак 1831 г.)***

*капішча*, побач са свяшчэнным дубам (недалёка ад сённяшняй Вострай Брамы).

Гедымін таксама звярнуў сваю ўвагу на старажытнае паселішча Трокі (цяпер Тракай), якое знаходзіцца недалёка ад Вільні.Тут на беразе возера Гальве ён будуе мураваны замак, які стаў адной і вялікакняжацкіх рэзідэнцый.

У другой палове XIV ст. тут ужо быў горад Старыя Трокі. Яшчэ адзін вялікі замак у 1323 г. Гедымін пачынае будаваць у Лідзе (за 90 км ад Вільні) побач са старажытным славянскім паселішчам XI-XIII стст.

Дзякуючы Гедыміну на мяжы з Ордэнам узнікла лінія мураваных гатычных замкаў Трокі - Вільня - Меднікі - Крэва - Ліда - Навагрудак. Вялікую ролю ў змаганні з крыжакамі адыграў сваяк Гедыміна налкаводзец*Давід Гарадзенскі* (1283-1326). Атрад Давіда не толькі адбіваў крыжакцкія напады, але і рабіў глыбокія рэйды на варожую тэрыторыю. Падчас аднаго з такіх паходаў у нямецкую зямлю Брандэнбург у 1326 г. ён быў па-здрадніцку забіты мазавецкім рыцарам (паход адбываўся разам з войскам мазавецкага князя), падкупленым крыжакамі. Паводле беларускага падання, героя прывезлі на радзіму і ўрачыста пахавалі каля Каложскай царквы ў Гародні. Сам Гедымін таксама загінуўу баі з крыжакамі ў 1341 г. У часы Гедыміна старабеларуская мова і культура канчаткова запанавалі ў ВКЛ. Па-беларуску працавала дзяржаўная канцылярыя, суды і іншыя дзяржаўныя ўстановы. Таму невыпадкова гісторыкі называюць ВКЛ *"Беларуска-літоўскім гаспадарствам"*.



*Лідскі замак. XV ст. Рэканструкцыя аўтара.*



***Абаронца Лідскага замка. XIV -XV стст. Рэканструкцыя У. Кіслага.***

**2. ВКЛ у часы Альгерда і Кейстута**

Сваім пераемнікам Гедымін прызначыў аднаго з малодшых сыноў Яўнуція, але таго ў 1345 г. пазбавілі ўлады старэйшыя браты Альгерд і Кейстут. Фармальна вялікім князем стаў Альгерд (1345-1377), але фактычна ў краіне склалася двоеўладдзе. Альгерд кіраваў усходняй часткай дзяржавы са сталіцай у Вільні, а Кейстут - заходняй, з рэзідэнцыяй у Троках, дзе Кейстут збудаваў сабе новы замак на востраве пасярод возера Гальве. Тут стварылася новае паселішча Новыя Трокі. Замак Гедыміна ў Старых Троках быў разбураны ў 1391 г.

Пасля таго як уладу ў ВКЛ падзялілі паміж сабою сыны Гедыміна Кейстут і Альгерд, у ВКЛ, несумненна, існавала некалькі вялікакняжацкіх рэзідэнцый. У Кейстута гэта былі Трокі і Навагрудак, у Альгерда - Крэва (яго вялікакняжацкі дамен) і Віцебск.

Дзякуючы Альгерду Крэўскі замак з адмысловай Княжацкай вежай, аздобленай фрэскавым роспісам, стаў адным з самы" прадстаўнічых у ВКЛ - і таму сын Альгерда Ягайла выбраў для падпісання уніі з Польшчай не Вільню, якая магла спачуваць яго ворагу Кейстуту, а менавіта Крэва, дамен яго бацькі Альгерда і яго спадчынны замак. Менавіта Альгерд зрабіў Крэўскі замак сваёй рэзідэнцыяй і, магчыма, істотна яго перабудаваў Другой яго рэзідэнцыяй стаў пасля шлюбу з Віцебскай княгіняй горад Віцебск, дзе ён пабудаваў мураваны замак і палац. У часы Альгерда разбудавалася і Вільня. Дзякуючы яго праваслаўнай жонцы ў сталіцы з'яўляюцца *Прачысценская, Святадухаўская* і *Пятніцкая* цэрквы, а таксама *Траецкая царква на Верхнім замку* Дзякуючы Альгерду да ВКЛ далучаецца Валынь (1362 г.), Браншчына (1355 г.) і частка Смаленшчыны (1357 г.). Войска Альгерда ў бітве з татарамі *на Сініх Водах* у 1362 г. атрымала перамогу, і ў склад ВКЛ увайшлі *Кіеўшчына, Падолле* і *Чарнігава-Северская зямля*. Такім чынам, 9/10 тэрыторыі ВКЛ сталі ўсходнеславянскімі, 4/5 насельніцтва былі праваслаўнымі беларусамі і ўкраінцамі. У той час гэтыя землі называлі "рускімі", а насельніцтва - "руссю", а мову і алфавіт (кірыліцу) - таксама рускімі. Суседнюю краіну на ўсходзе тады называлі Масковіяй, а яе жыхароў - "масквой", "маскалямі" або "маскавітамі".

Пасля смерці першай жонкі, віцебскай князёўны, Альгерд ажаніўся з Ульянай, дачкою цверскага князя, які тады быў галоўным ворагам маскоўскіх князёў. Каб дапамагчы свайму цесцю, Альгерд здзейсніў тры паспяховыя *паходы на Маскву* ў 1368, 1370 і 1372 гг. Маскоўскі князь мусіў выканаць умовы Альгерда і спыніць напады на Цвер. Усходняя мяжа ВКЛ была ўстаноўлена каля Мажайска і Каломны.

**3. Вялікі князь Вітаўт і яго княжанне**

Пасля смерці Альгерда пачалася барацьба за ўладу. Альгерд пакінуў спадкаемцам не старэйшага сына ад першай жонкі Андрэя Полацкага, а сына ад другой жонкі, цверскай князёўны - Ягайлу. Гэта не спадабалася Кейстуту і ягонаму сыну Вітаўту. У 1382 г, Кейстута на загад Ягайлы забілі, а з Вітаўтам барацьба ішла далей Часова перамог Ягайла, а Вітаўт атрымаў толькі Берасце і Гародню. У гэты час напады крыжакоў на ВКЛ узмацніліся, і Ягайла пачаў шукаць сабе саюзнікаў праз удалы шлюб. Ён меў два варыянты: або ажаніцца з польскай каралевай Ядзвігай, або з дачкою маскоўскагп князя Дзмітрыя Данскога, чыё войска ў 1380 г. перамагло татараў на Куліковым полі. Ягайла выбраў саюз з Польшчай і далучыў ВКЛ да заходняй хрысціянскай цывілізацыі.

14 жніўня 1385 г. Ягайла падпісаў Крэўскую ўнію, прыняў каталіцтва, загадаў ахрысціць у каталіцтва мясцовых балтаў, асабліва Жмудзь і ажаніўся з Ядзвігай. У 1387 г. ён даў значныя прывілеі ўсім феадалам-каталікам ВКЛ, а праваслаўных пакінуў на другім месцы, хоць іх было значна болей. Яны выступілі супраць, і іх лідарам стаў Вітаўт.



***Вялікі князь Вітаўт на помніку "Тысячагоддзе Берасця" (скульптар А. Паўлючук, 2009).***





*(Працяг у наст. нумары.)*

# Фестываль патрыятычнай песні і паэзіі пад Лідай "1514"

8 верасня 2017 г. на аграсядзібе "Гасьціна" ў в. Пескі пад Лідай прайшоў 2-гі фестываль патрыятычнай песні і паэзіі да Дня беларускай вайсковай славы "1514".

Фэст арганізоўваўся арганізацыямі ТБМ Лідскага раёна і рэдакцыяй газеты "Наша слова" з улікам леташняга такога ж фестывалю.

Адкрыў фестываль намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Сяргей Чарняк, які даў слова для віншавання старшыні арганізацыі падпалкоўніку запасу Станіславу Судніку. Наступным на сцэну выйшаў маёр запасу бард Зміцер Захарэвіч, які патрыятычнымі песнямі задаў танальнасць усёй імпрэзэ.

Далей пайшлі вершы ў























выкананні акцёра Алега Лазоўскага і паэта Міхася Скоблы, які, карыстаючыся нагодай, прэзентаваў новую кнігу "Гісторыя Сапегаў", укладальнікам і рэдактарам якой ён з'яўляецца.

Прагучалі песні ў выкананні Таццяны Грыневіч - Матафонавай, і на сцэну выйшаў Алесь Дзянісаў, кіраўнік гарадзенскага гурта "Дзяцюкі", які не змог прабіцца на Lidbeer, ну то прыехаў у Пескі.

Зміцер Бартосік ужо традыцыйна выйшаў на сцэну з дачкой, якая прадэманстравала выключныя вакальныя якасці.

Новым для 2017 года быў удзел у фестывалі гурта тутэйшых украінцаў "Смерычка", які несумненна ўпрыгожыў дзею, дадаў каларыту, тым больш, што Украіна не раз згадвалася ў вершах розных паэтаў.

Ну і прыйшла чарга Андрэя Мельнікава, які кожны год ездзіў на Крапівенскае поле, але ўжо другі год прыязджае пад Ліду.

Завяршыў выступленні бардаў Алесь Мацкевіч, які спецыяльна на фестываль дабіраўся ажно з Калінінграда.

Апошнюю песню, прысвечаную 27 ліпеню і прыняццю Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, на словы Станіслава Судніка выканаў хор арганізатараў фэсту.

Калі глядзець на падбор выступоўцаў, то фестываль быў арганізаваны выдатна. Адзін з арганізатараў Сяргей Пантус сказаў:

- Страх падумаць, што будзе ў наступным годзе, бо сёлета дзея цягнулася пяць гадзін, а калі будзе выканаўцаў з пятнаццаць.

Канешне, па колькасці гасцей з Lidbeer пакуль не зраўняцца і не наблізіцца нават, але варта зазначыць, што і адзін фестываль, і другі, і "Меч Лідскага замка", і фестываль лідскага друку 15 верасня, і фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага, сплянаваны на 24 верасня - гэта ўсё Лідчына, дзе ўжо сёння можна бачыць тую Беларусь, якая будзе на ўсёй тэрыторыі краіны праз гадоў 10-15.

Так што, шаноўнае спадарства, калі ласка ў беларускую Ліду, каб адпачыць душой і целам ды крышку дакрануцца да беларускасці.

***Наш кар.***





*Навіны Германіі*

# Немец і беларус напісалі манаграфію пра гісторыю Белавежскай пушчы

Беларусазнаўства ўсё актыўней развіваецца на Захадзе. У Германіі паступова афармляюцца важныя даследчыя цэнтры, якія цікавяцца Беларуссю: у першую чаргу вылучаюцца ўніверсітэты Ольдэнбурга і Гісена. Невыпадкова ў гэтай сувязі, што чарговая прэмія Кангрэсу даследнікаў Беларусі мае асобную намінацыю для нямецкамоўных прац, піша nn.by.

Неўзабаве выйдзе чарговае даследаванне, прысвечанае беларускай (дакладней - беларуска-польскай) тэматыцы. Калектыўную манаграфію пра гісторыю Белавежскай пушчы Томас Бон, прафесар усходнееўрапейскай гісторыі ва ўніверсітэце Гісена (Германія), прадставіў у красавіку ў мюнхенскім Фондзе Сіменса.

Аўтары даследавання разглядаюць нацыянальны парк у яго гістарычным развіцці, як масток, які злучае два спосабы пісаць гісторыю - гісторыю рэгёна і гісторыю навакольнага асяроддзя. Даследнікі, якія працавалі над кнігай - акрамя прафесара Бона гэта былі Аляксандр Даўгоўскі (гісторык з Менска) і Маркус Дробка (нямецкі даследнік, які вывучае Польшчу) - ставілі за мэту разгледзець узаемадзеянне палітычных структур, сацыяльных груп і прыроднага асяроддзя.

Такая перспектыва дазволіла прыўнесці ў кнігу шырокі спектр праблем. Гэта і звычайныя гістарычныя сюжэты: змена палітычных сістэм і рэжымаў, уплыў распрацаваных імі ідэнтычнасцяў і лаяльнасцяў. Гэта лакальныя пытанні пра тое, як узаемадзейнічалі мясцовыя жыхары, немясцовыя ўласнікі лесу ці прысланыя імі спецыялісты і замежныя эколагі ды абаронцы прыроды. Сімвалічнае і практычнае значэнне зубраў і, уласна, лесу, супрацоўніцтва палякаў і беларусаў, умацаванне амерыканскай ідэі нацыянальнага парку, логіка нямецкай акупацыйнай улады былі сярод іншых тэм кнігі.

Цікава, што для рэкламы лекцыі арганізатары выкарыстоўвалі імя дзейснага прэзідэнта Беларусі: "Якія адносіны да зубра мае Лукашэнка?" Гэта пытанне было пашыраны наступным чынам: "Наколькі лёс апошняга еўрапейскага ляснога запаведніка звязаны з палітыкай Лукашэнкі? Ці ўздзейнічае "адказны" турызм на беларускую аўтакратыю? І наколькі беларускае імкненне да большай самастойнасці ад Расіі і асцярожнае збліжэнне з Заходняй Еўропай адбіваецца на ўтрыманні парку, з яго 800-тамі дзікімі быкамі, якія жывуць на волі? І як складаецца польска-беларускае супрацоўніцтва ў адміністраванні парку?"

Уласна кніга ўяўляе сабою "скразную" гісторыю Белавежскай пушчы. У лекцыі, якая адбылася ў якасці прэзентацыі, значная ўвага надавалася таксама міфам, што ўзніклі вакол пушчы пераважна за апошнія 200 гадоў. Уваходжанне Белавежскай пушчы ў сучасную літаратуру адбылося дзякуючы польскім рамантыкам (нажаль, у дакладзе аказаўся абыдзены ўвагай Мікола Гусоўскі). Для Міцкевіча пушча была сучасніцай польскага караля, а зубр і іншыя жывёлы- імператарамі першабытнага лесу.

Пушча функцыянавала як месца памяці, сімвалічнае ўвасабленне сіл супраціву - як расійскім царам, так і нямецкім акупантам. У тым ліку па гэтай прычыне выявы зубраў сталі часткай помнікаў у Гайнаўцы і ў Камянцы.

Галоўнай задачай калектыўнага даследчага праекту была "гістарызацыя" (г. зн. разгляд у гістарычным кантэксце) памежнага помніка экалогіі. Апошні ў 2004 годзе нечакана стаў мяжой паміж "вольным светам" і "апошняй дыктатурай Еўропы". Аднак прафесар Бон разглядае такое ўспрыманне як хібнае, бо парк з'яўляецца аб'ектам узаемадзеяння беларускіх і польскіх уладаў.

Значэнне Белавежскай пушчы выцякае першым чынам з таго, што гэта - апошні падобнага роду лясны масіў у Еўропе. Па гэтай прычыне ў 1979 годзе польская частка пушчы была ўключана ў сусветны спіс спадчыны ЮНЭСКА; у 1992 годзе туды ўключана і беларуская частка. У 2014 годзе, на падставе сумеснай заяўкі беларускай і польскай адміністрацый парку Белавежская пушча пачала разглядацца ў спісе як адзіны аб'ект.

На працягу сваёй гісторыі пушча "абрасла" шматлікімі культурнымі міфалогіямі, якія дынамічна змяняліся ў залежнасці ад палітычных рэжымаў, меж, ідэнтычнасцяў. Пушча служыла "пляцоўкай ментальных праекцый фантазій пра першабытны лес". Пэўнымі прыкладамі такіх міфалогій з'яўляюцца выявы "імператара пушчы" (менавіта так Міцкевіч характарызаваў зубра), ці




ўяўленне пра 600-гадовую гісторыю запаведніка.

Аб'ектам цікавасці даследнікаў з'яўляюцца таксама адносіны, якія складваюцца паміж прыродай, жывёламі і чалавекам. Так, у канцы XIX стагоддзя мясцовае насельніцтва выкарыстоўвала для саманазвы агульнараспаўсюджанае паняцце "тутэйшы". Пазней, з міжваеннай пары, распаўсюджваецца саманазва "пушчанцы" - як спосаб адмежавацца ад тых, хто жыве ў "полі".

У доўгай гісторыі пушчы, якая была і "літоўскім лесам" у культуры Рэчы Паспалітай, і "царскім лесам" у Расійскай Імперыі, у XIX стагоддзі адбываецца інтэрвенцыя чалавека ў прастору пушчы: царскі двор, які непасрэдна кіраваў лесам, разбудаваў тут у другой палове стагоддзя адпаведную інфраструктуру. У 1888 годзе пачалася нарыхтоўка драўніны.

У Першую сусветную вайну нямецкія акупацыйныя ўлады ставілі сваёй мэтай стварыць у пушчы "ўзорную гаспадарку", якая служыла б наглядным прыкладам перавагі нямецкага парадку. Разбудоўвалася інфраструктура: напрыклад, была пабудавана чыгунка. Пасля гэтай спадчынай скарысталася Польшча, якая прадала канцэсію на нарыхтоўку лесу брытанскай фірме.

Асобны цікавы сюжэт - гісторыя папуляцыі зубраў, якая была знішчана ў 1919 годзе. У канцы 1920-х гадоў ідэя аднаўлення папуляцыі знайшла міжнародную падтрымку, першым чынам у Германіі. У гэтай справе канкуравалі польскія і нямецкія навукоўцы. Пасля 1945 года гэты кірунак набыў на нейкі час тыя ці іншыя траекторыі ў СССР і ў Польшчы. У гады лысенкаўшчыны савецкія навукоўцы правodзілі эксперыменты са скрыжаваннем зубраў. Падчас дэсталінізацыі была дасягнута прынцыповая дамова паміж польскімі і савецкімі калегамі: у пушчу маглі ў далейшым дапускацца толькі расава чыстыя жывёліны.

Цікава, што некаторыя маскоўскія спецыялісты выказвалі незадаволенасць канцэнтрацыяй гадоўлі зубраў у Белавежскай пушчы. Успрымаючы зубра як знак савецкага патрыятызму, яны прапанавалі перамясціць гэтую індустрыю бліжэй да Масквы, у адмысловы парк.

У гады Другой сусветнай вайны вялікую цікавасць да пушчы праяўляў Гебельс, які лічыў, што зубры сімвалізуюць лепшыя якасці арыйскай расы ("характэрна германская жывёла"). Па гэтай прычыне прадпрымаліся спробы стварэння ў пушчы "імперскай паляўнічай прасторы". Гэта ажыццяўлялася ў рамках расісцкага пераўпарадачання прасторы - нароўні са знішчэннем габрэяў і спальваннем вёсак.

Пасля вайны пушча была падзелена паміж Польшчай і СССР. Гэта была саступка Сталіна польскаму ўраду ў выгнанні, паколькі лінія Керзона ў 1919 годзе вызначала, што на тэрыторыі пушчы і вакол яе пражываюць беларусы і ўкраінцы, а не палякі. Беларуская партыйная эліта спрабавала пераканаць Маскву ў нямэтазгоднасці такога падзелу, але безвынікова.

Цікава змяняўся статус пушчы ў СССР пасля вайны. З аднаго боку Сталін гатовы быў дэманстраваць клопат пра ахову прыроды ў пушчы. Гэта была свайго роду "кампенсаванне" амбіцыйных праектаў умяшання ў экалогію (паварот рэк, напрыклад). Пасля Хрушчоў паставіў мэтай грандыёзную праграму жыллёвага будаўніцтва і імкнуўся скараціць астатняе "марнатраўства". У выніку ў канцы 1950-х склаўся цікавы "падвойны" статус пушчы: як прыроднага запаведніка і як эксклюзіўных паляўнічых угоддзяў.

Абшары пушчы заставаліся тым часам недаступныя для мясцовага насельніцтва, затое іх наведвалі кіраўнікі савецкай дзяржавы. Напрыклад, Хрушчоў сем разоў быў у Белавежы, Брэжнеў паляваў тут тройчы. Гэты эксклюзіўны статус падпаў пад крытыку ў гады галоснасці.

У верасні 1991 года пушча набыла статус нацыянальнага парку, які фармальна ахопліваў увесь лясны масіў. Цікава, што сам канцэпт нацыянальнага парку быў запазычаны з Амерыкі. У ім закладзены два асноўныя моманты: абарона прыроднай спадчыны і эканамічны фактар турызму.

У 1994 годзе пушча перайшла ў прамое кіраванне Адміністрацыі прэзідэнта. Яна фінансавалася дзяржавай толькі часткова, таму там павінна была развівацца бізнэс-актыўнасць. Гэта прывяло да канфліктаў паміж рознымі групамі інтарэсаў: адміністрацыяй, навукоўцамі, мясцовым насельніцтвам. Галасы незадаволеных заглушаліся шляхам звальненняў.

Паступова ўсё больш відавочным станавіўся сімвалічны і турыстычны патэнцыял пушчы. З 2000-х гадоў у Беларусі актыўна эксплуатуецца выява зубра, пасля такая тэндэнцыя назіраецца і ў Польшчы. Найболей яркім прыкладам, безумоўна, з'яўляецца Волат - талісман чэмпіянату па хакеі 2014 года.

Новы імпульс беларускаму кіраванню пушчай быў нададзены юбілейнымі імпрэзамі 2009 года. Лукашэнка абвясціў прыродны помнік нацыянальнай святыняй. У адміністрацыйнай практыцы гэта азначала рэактывацыю старога канцэпта "нацыянальнага парку". У гэтым выявілася "ўлада дыскурсу", аддалены эфект экалагічнага павароту, які адбыўся ў 1970-я гады.

Кніга "Wisent-Wildnis und Welterbe. Geschichte des polnisch-weissrussischen Nationalparks von Bialowieza" ("Пушча зубраў і сусветная спадчына. Гісторыя польска-беларускага нацыянальнага парку Белавежа") выйдзе ў верасні 2017 года, у выдавецтве "Bohlau".

***Хартыя-97, nn.by.***

# У Наваградку ўшанавалі філарэтаў і філаматаў

У доме-музеі Адама Міцкевіча ў Наваградку адбылося ўшанаванне філарэтаў і філаматаў. Мерапрыемства прысвячалася 200-годдзю студэнцкага таварыства філарэтаў і філаматаў, якое 1 кастрычніка 1817 года заснавалі Тамаш Зан і Адам Міцкевіч, а таксама іх сябры. Тады і адбылося першае паседжанне студэнцкага згуртавання.








Ушанаванне філарэтаў і філаматаў распачаў у доме-музеі Адама Міцкевіча яго дырэктар Мікола Гайба. Спадар Мікола пазнаёміў прысутных з невялікай выставай кніг з фондаў музея, прысвечаных філаматам і філарэтам. А таксама адзначыў, што сёння ў музеі знаходзіцца больш за 170 кніг, прысвечаных Адаму Міцкевічу, і 18 кніг "Пана Тадэвуша" на розных мовах. Два тамы ў перакладзе на кітайскую мову паступілі ў музей нядаўна.

Бард Аляксей Жбанаў выканаў шэраг песень на словы Адама Міцкевіча, Тамаша Зана, Яна Чачота. А Раіса Крывальцэвіч праспявала беларускую народную песню, якую любіла некалі спяваць Марыля Верашчака. Харэограф і музыка Алена Прохарава нагадала ўсім, як некалі праводзіўся баль і якія танцы тады танчыла моладзь.

***Барыс Баль,***
*Беларускае Радыё Рацыя, Наваградак. Фота аўтара.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by



**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**
**http://nashaslova.mns.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 11.09.2017 г. у 17.00. Замова № 1921.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1,43 руб., 3 мес.- 4,29 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.